# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КНІГА ЗАБЯСЬПЕЧВАЕ НАРОДУ ВЕЧНАСЬЦЬ

## *(Прадмова выдаўца факсіміле)*

Аўген Калубовіч (Каханоўскі) – вядомы беларускі грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, гісторык і публіцыст – нарадзіўся ў 1910 годзе ў мястэчку Ціхінічы Рагачоўскага павету Магілёўскай вобласьці. У 1930 годзе асуджаны на тры гады сталінскага канцлягеру за беларускі патрыятызм. Вярнуўшыся з канцлягеру, працаваў настаўнікам. У гады Другой Сусьветнай вайны быў у Менску, уваходзіў у склад Беларускай Цэнтральнай Рады, удзельнічаў у Другім Усебеларускім Кангрэсе (1944 г.). Пасьля вайны – у эміграцыі. Быў прэм'ерам ураду БНР, выдаваў беларускія часопісы, займаўся літаратурай і навукова-дасьледчыцкай дзейнасьцю, друкаваў кнігі. Памёр у 1987 годзе, пахаваны ў Кліўлендзе (ЗША).

«*Мова ў гісторыі беларускага пісьменства*» – гэта адна з найлепшых кніжак Аўгена Калубовіча. Кніга выдадзена ў 2-х частках. Шануючы каштоўнасьць яе для нашай гісторыі, мы друкуем тут і прапануем чытачу факсімільнае выданьне яе 1-й часткі.

Гэта адна з тых кніжак, якія выварочваюць душу ад крыўды на жорсткасьць гісторыі, прымушаюць моцна біцца сэрца, і попел пакаленьняў стукае ў скронь. Сухой мовай фактаў, скрупулёзна і педантычна паказана, як пасьлядоўна і мэтадычна нішчылі вялікую беларускую кніжную культуру варвары, войны, акупацыі, ворагі і беспамяцтва.

У гісторыі культуры ёсьць некалькі знакавых эпахальных падзей, якія ў корані зьмянялі ход разьвіцьця чала-

вецтва, ствараючы агульную базу для новай культуры і новай асобы. Такімі эпахальнымі падзеямі ў гісторыі цывілізацыі былі пераход да земляробства і аседлага вобразу жыцьця, зьяўленьне гарадоў і зьяўленьне друкаванай кнігі. Кніга – найвялікшы чыньнік культуры і гісторыі чалавецтва, кожнай нацыі і народа. Кніга, як і мова, якая ў кнізе рэалізавана, забясьпечвае народу вечнасьць.

Беларусь – гэта гістарычная краіна вялікай кніжнай культуры. Адсюль пайшла першая друкаваная кніга ва Ўсходняй Эўропе. Адсюль ішла культура і асьвета далей на Ўсход, у дзікія стэпы і варварскія гарады. Тут стварылася велізарная кніжная спадчына, бібліятэкі і зборы кніг, якія год за годам пасьля ўпадку беларускай дзяржаўнай сілы нішчыла варожая антыкультурная стыхія, варварства, дзікае забыцьцё.

І ўсё ж Беларусь жыве. Гэта таксама цуд, як цудам ёсьць гісторыя яе культуры.

*Зянон Пазьняк*

Лістапад, 2015 год, Варшава



1. Аўген Калубовіч (Каханоўскі)

Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства дасьледаваў А. Шлюбскі[1]). Займаўся ім 1-шы зьезд беларускіх археолягаў і археографаў у Менску ў 1926 г.[2]). Шмат дадатковых дадзеных ёсьць у іншых працах і крыніцах.

## Пісьмовыя сьведчаньні пра беларускія бібліятэкі й архівы XII—XVIII ст.ст.

Пачаткі беларускіх бібліятэк губляюцца дзесь у пачатках беларускага пісьменства. Але сьведчаньні пра іх, якія да нас дайшлі й дагэтуль нам ведамыя — із пазьнейшых часоў: яны ў розных старых юрыдычных актах, кроніках, творах мэмуарнай і навуковай літаратуры.

Гэта сьведчаньні пра **бібліятэкі:**

1) **манастырскія й царкоўныя** — Траецкага манастыра ў Слуцку, 1494 г.[3]); Усьпенскага

---

1) АШ.

2) Рэзалюцыі, пратакол і рэфэраты, чытаныя на ім (М. Доўнар-Запольскага, З. Даўгялы, М. Мялешкі, А. Ясенева й інш.), апублікаваныя ў кнізе: ІБК ПЗБАА.

3) АЗР, т. 1, 1846 г., № 115.

Ляшчынскага манастыра ў Пінску, 1520 г.[4]); Дабравешчанскага манастыра ў Супрасьлі, 1557[5]), 1645[6]) і 1668[7]) гг.; Сафійскага сабору ў Полацку, 1579[8]), 1654[9]) і 1781[10]) гг.; Усьпенскага сабору ў Смаленску, 1611 г.[11]); базылянскага манастыра ў Полацку (пазьней — Полацкай вуніяцкай сэмінарыі, XVII—XVIII ст.ст.[12]); базылянскага манастыра ў Жыровічах, 1613 (і 1623)[13]), 1634[14]), 1636[15]), 1661[16]) і

---

4) АШ, § 174.

5) АСД, т. 9, 1870 г., № 20.

6) Там-жа, № 59.

7) Там-жа, № 68.

8) АШ, § 7; Heidenstein Reinhold. De bello Moscovitico commentariorum libri sex. Spirae, 1591, б. 323. Ёсьць беларускі пераклад «Нататак» — Р. Гайдэнштайн. Пад Полацкам дажджы, Ватэнштэт (Нямеччына), 1946 г. (Сьведчаньне пра бібліятэку — б. 45).

9) А. П. Сапуновъ. Витебская старина, т. 4, Витебскъ, 1885 г., б. 292.

10) I. Stebelski. Dwa wielkie światła na horyzoncie Połockim: żywoty św.św. Ewfrozyny i Parascewii, Wilno, 1781.

11) АШ, § 15.

12) Там-жа, § 110 (Д. Довгялло. Поуніатская библіотека Витебской Духовной Семинаріи — Полоцкія Епархіальныя Вѣдомости, 1901 г., № 1—2).

13) Запіс Багданы Працлаўскай 15. XII. 1623 г. у старым Жыровіцкім эвангельлі, які пацьвярджае загінуўшае ў 1623 г. наданьне ейнага бацькі Івана Мялешкі за 29. X. 1613 г. Жыровіцкаму манастыру — Збор яп. Паўла (Дабрахотава) у бібліятэцы АН у Пецярбургу (Гл. арт. П. Жуковіча ў «Извѣстія

1713[17]) гг.; Мікалаеўскай царквы (был. манастыра) у Бельску, 1636 г.[18]); базылянскага манастыра ў Быцені, 1647[19]) і 1713[20]) гг.; брыгіцкага[21]) й язуіцкага[22]) манастыроў у Горадні, XVII—XVIII ст.ст.; францішканаў у Вільні, 1655[23]), 1748[24]) і 1749[25]) гг.; Багазьяўленскага манастыра ў Куцейне (Воршы), 1665 г.[26]); Траецкага Маркавага манастыра ў Віцебску, 1685 г.[27]); Спасаўскага Ахорскага манастыра к. Чэрыкава, 1708 г.[28]); язуітаў у Нава-

---

Императорской Академіи Наукъ по Отдѣленію русскаго языка и словесности», т. 17, вып. 2, СПБ, 1912 г., б. 234).

14) Запіс перапісчыка Н. Казіцкага на канцы Кормчай 1634 г. (Добрянскій, № 242).

15) АСД, т. 12, 1900 г., б. 35.

16) Там-жа, б. 74.

17) Там-жа, б. 4.

18) АВАК, т. 33, 1908 г., № 195.

19) Дароўны запіс віленскага бурмістра Ів. Яцкавіча ў 1647 г. на падараванай ім гэтай бібліятэцы кнізе «Сказанія полезная о латинох . . .», XV ст. (Добрянскій, № 269).

20) АСД, т. 12, б. 4.

21) БелСЭ, т. 4, 1971 г., б. 19.

22) Там-жа, б. 20.

23) LE, т. 1, 1953 г., б. 483.

24) Там-жа.

25) Там-жа.

26) РИБ, т. 5, СПБ, 1878 г., № 204.

27) АШ, § 25.

28) Там-жа, § 29.

градку, 1754 г.[29]); дамініканаў у Горадні, XVIII ст.[30]);

2) **школьныя** — Віленскай язуіцкай акадэміі, 1570[31]), 1572[32]), 1579[33]), 1610[34]), 1623[35]) і 1655[36] гг.; Слуцкай кальвінскай калегіі, 1649 г.[37]); Полацкай язуіцкай калегіі, 1790 г.[38]); паязуіцкіх базылянскіх і піярскіх калегіяў і гімназіяў у Менску, Слуцку, Бабруйску, Мазыры, Пінску, Паставах, Халопенічах, Барунах к. Ашмянаў, Лідзе, Шчучыне, Горадні, Наваградку, Слоніме, Жыровічах, Лыскаве к. Ружанаў, Берасьці й інш., 1801 г.[39]); і

3) **прыватных асобаў** — Слуцкіх князёў

---

29) LE, там-жа.

30) Там-жа.

31) АШ, § 72; К. Харламповичъ. Западнорусскія православныя школы XVI и начала XVII в., Казань, 1898 г., б. 56.

32) Там-жа.

33) Там-жа.

34) АШ, § 14; Харламповичъ, б. 60.

35) АШ, § 72; J. Łukaszewicz. Historya szkół w Koronie i w Wielkiem Księstwie Litewskiem z najdawniejszych czasów aż do roku 1794, t. 4, Poznań, 1851, б. 41.

36) АШ, § 72; Памятная книга Гродненской губерніи на 1866 г., б. 52.

37) А. Мальдзіс. Сьляды продкаў — ЛІМ, № 56/2517 за 23. X. 1970 г., б. 12.

38) LE, там-жа.

39) Белоруссия в эпоху феодализма, АН БССР, т. 2, Минск, 1960 г., б. 482.

Алелькавічаў, XV—XVI ст.ст.[40]); уласьнікаў Жыровічаў Солтанаў, 1487—1545[41]) і 1516[42])

---

40) Аб ёй ёсьць шмат сьведчаньняў. Да найранейшых кніг яе належаць Слуцкі сьпісак 2-ой пал. XV ст. Беларускага летапісу 1446 г. і Летапіс Слуцка XV ст. Тады кніжкі, якія для кн. Юр'я Сымонавіча († 1542 г.) перапісваў Юстын Яцкавіч (чачаранін), і г. д.

41) Прыпіскі на пэрагу кніг з гэтае бібліятэкі сьведчаць аб тым, што Солтаны ня толькі набывалі кнігі, але й мелі сваіх перапішчыкаў. На загад маршалка гаспадарскага Солтана Аляксандравіча, у 1487 г. дзяк ягоны Сенька перапісаў для яго, праўдападобна, у Слоніме (маршалак быў тады Слонімскім намесьнікам) «Минею мѣсячную» на сакавік і красавік месяцы (Добрянскій, № 161), а перад тым — «Минею мѣсячную» на студзень і люты (Добрянскій, № 156). У 1496 г., ужо па сьмерці маршалка, відаць, у Бельску (апошнія годы жыцьця ён быў Бельскім намесьнікам) іншым перапішчыкам для яго быў перапісаны «Прологъ» (Добрянскій, № 100). У 1537 г. два перапішчыкі перапісалі для сына ягонага, Аляксандра Солтанавіча (таксама маршалка гаспадарскага), Службу сьв.сьв. Барысу й Глебу із парэміямі й Служэбнік. У 1545 г. у іншым двары Солтанаў (Шэшкінях к. Вільні) дзяк Аляксандра Солтанавіча, Міхайла, перапісаў для яго Багародзічнік (Пазьней кніжкі 1537 і 1545 гг. былі сшытыя ў вадзін зборнік — М. Н. Тихомировъ. Описание Тихомировского собрания рукописей, Москва, 1968 г., № 11, бб. 19—20).

42) Із гэтага году ў Літоўскай Мэтрыцы захаваўся сьпіс часткі кніг бібліятэкі Солтана Аляксандраві-

гг.; вялікага князя ў Вільні, 1510[43]), 1562[44]), 1570[45]) і 1572[46]) гг.; сьвятара Юр'еўскай царквы ў Вільні а. Мацея, 1522 г.[47]); графаў Храбтовічаў у Шчорсах к. Навагрудка, 1545 г.[48]) і кан. XVIII ст.[49]); каталіцкага біскупа ў Вільні Валерыяна (Пратасевіча), 1579 г.[50]); старасты Горадзенскага пав. Аляксандра Хадкевіча ў Гарадку к. Беластоку, 1582 г.[51]); менскага мешчаніна Мартына Вольскага, 1582 г.[52]); князёў Радзівілаў у Нясьвіжы, 4-ая чвэрць XVI ст.[53]), 1671[54]), 1726[55]) і 1772[56]) гг.; берась-

---

ча, «што у Вильни были пры немъ» — РИБ, т. 20, СПБ, 1903 г., б. 872.

43) Кніга Судовых спраў № 2 Літоўскай Мэтрыкі, 1510 г., арк.арк. 153—162.

44) LE, там-жа.

45) Там-жа.

46) АШ, § 72; Харламповичъ, б. 56.

47) АСД, т. 6, 1869 г., № 5.

48) Першая ведамая датаваная кніга гэтай бібліятэкі — рукапіснае эвангельле Багдана Храбтовіча з 1545 г. (Россія, подъ ред. В. П. Семенова, СПБ, т. 9, 1905 г., б. 430).

49) Polski Słownik Biograficzny, Kraków, т. 3, б. 443; А. Сьцяпанаў. Бібліятэка ў Шчорсах — час. «Беларусь», Мінск, 1955 г., № 7, б. 28; С. Палеес. Па роднай Беларусі, Мінск, 1958 г., б. 133.

50) АШ, § 72; Харламповичъ, б. 56.

51) Аб ёй сьведчыць М. Стрыйкоўскі ў сваёй Kroni'цы, т. 1, б. 253 (Варшаўскага перадруку 1846 г.).

52) АВАК, т. 36, 1912 г., б. 58.

53) Заснаваў яе кардынал Юры († 1600 г.) — Иконниковъ, т. 1, кнг. 2, б. 1241.

цейскага мешчаніна Гурына Федаровіча, 1624 г.[57]); віленскага бурмістра Сьцяпана Лябедзіча, 1649 г.[58]); арганізатара Слуцкай кальвінскай калегіі Андрэя Дабранскага, 1649 г.[59]); падканцлера Вялікага княства Літоўскага Казімера Сапегі (заснаваную бацькам ягоным — канцлерам і пісьменьнікам Львом Сапегаю, † 1633 г.), 1655 г.[60]); полацкага вуніяцкага архіяпіскапа Габрыэля Каляды (1655—66 гг.) і ягоных наступнікаў (Фларыяна Грабніцкага й Ясона Смагажэўскага), XVII—XVIII ст.ст.[61]); магілёўскага магната Тамаша Трызьніча, 1661 г.[62]); Рачынскіх у Смаленску, 1669 г.[63]); магілёўскага войта кан. XVII — пач.

---

54) Як гэта відаць із прыпіскі ў канцы Радзівілаўскага сьпіску XV ст. Пачатнага летапісу, у гэтым годзе ён быў пакладзены на перахаваньне ў бібліятэку Кёнігсбэргскага замку. На прыклееным да кнігі друкаваным ярлыку зазначана, што яна із Boguslao Radzivilio Bibliothecae — Полное собрание руских летописей, т. 1, Москва, 1962 г., б. VI.

55) У гэтым годзе кн. Міхал Радзівіл нанова ўсталяваў бібліятэку ў вадбудаваным ім замку — ЭС, т. 20, 1897 г., б. 915.

56) АШ, § 37.

57) АВАК, т. 6, 1872 г., б. 243.

58) Там-жа, т. 9, 1878 г., бб. 481-483.

59) Мальдзіс, там-жа.

60) АШ, § 72.

61) Там-жа, § 110.

62) АВАК, т. 34, 1909 г., № 178.

63) С. Бѣлокуровъ. О библіотекѣ московскихъ государей въ XVII ст., Москва, 1899 г., б. 36.

XVIII ст.ст. Хведара Казановіча[64]); канцлера й пісьменьніка Яна Сапегі (†1751г.) у Кодэні пад Берасьцем, XVIII ст.[65]); князёў Сапегаў у Ружанах (у 1786 г. перавезеную ў Дзярэчын к. Зэльвы), 1748—50 гг.[66]) і XVIII ст.[67]); слонімскага старасты Фларыяна Стравінскага ў двары Накрышках Наваградзкага пав., заснаваную ў 1760—70 гг.[68]); кн. Міхала Агінскага ў Слоніме, 4-ая чвэрць XVIII ст.[69]); і шмат іншых[70]).

---

64) ИЮМ, т. 10, 1879 г., б. 376. Зьбіраць кнігі для гэтай бібліятэкі ўжо пачаў, відаць, продак ягоны, таксама войт, Пятро Казановіч, у пасьмяротным інвэнтары маёмасьці якога, уложаным у 1683 г., ёсьць сыпіс 15 кніг (ИЮМ, т. 9, 1878 г., б. 163).

65) ЭС, т. 28, 1900 г., б. 395.

66) А. Тычына. Экслібрыс нашага мінулага — ЛІМ, № 43/2569 за 22. Х. 1971 г., б. 14.

67) АШ, § 77; ЭС, т. 10, 1893 г., б. 462.

68) А. Мальдзіс. Тры месяцы пошукаў, знаходак і сустрэч — Полымя, 1973 г., № 7, бб. 204-206.

69) Тычына, там-жа.

70) «Ключи отъ книгъ» Купяціцкага Увядзенскага манастыра к. Пінску былі ў намесьніка ігумена манастыра, Апанаса Філіповіча, пісьменьніка й пазьнейшага сьвятога («Діаріушъ» А. Філіповіча, 1646 г. — гл. публікацыю яго ў А. Коршунава «Афанасий Филиппович», АН БССР, Минск, 1965 г., б. 109). У 1685 г. на перахаваньні ў Віцебскім Маркавым манастыры былі бібліятэчкі із Сялютаў, Салаўёва, Пагосьціч і інш. прыходаў, а таксама й прыватных асобаў зь Віцебску (АШ, § 25).

Можна думаць, што прынамся ў часткы выпадкаў пра бібліятэкі сьведчаць кнігі, якія ў каталёгу кніг Супрасьльскага манастыра 1557 г. паказаныя як дар манастырскай бібліятэцы ад мітр. Язэпа Солтана († 1521 г., Навагрудак), скарбнага Вялікага княства Літоўскага Яцка, Сапегі (невядома катораga), Таранкоўскага й м. Жабінка Берасьцейскага пав.; кнігі ў двары ваяводы Менскага Багдана Сапегі ў Боцьках к. Бельску, у царкве сьв. Сымона ў Камянцы й у Берасьці, якія ў 1621 г. называе З. Капысьценскі ў кнізе «Палинодія» (РИБ, т. 4, 1878 г., бб. 991-992); таксама кнігі магілёўскага друкара кан. XVII — пач. XVIII ст. ст. Максіма Вашчанкі, якія к. 1683 г. у яго вымяняў войт Магілёўскі Пятро Казановіч (ИЮМ, т. 9, б. 163).

«Огромное по тому времяни собраніе книгъ Симеона Полоцкаго» па сьмерці ягонай у Маскве (1680 г.) было забранае ў бібліятэку Маскоўскай сынадальнай друкарні (ЭС, т. 3, 1891 г., бб. 789 і 803). Уласнаручныя полацкія надпісы на шэрагу кніг гэтай бібліятэкі даюць права прыпушчаць, што паэта й прафэсар Полацкай праваслаўнай калегіі пачаў зьбіраць сваю бібліятэку яшчэ ў Полацку, у 1640—60-ых гг. Невялікія, але каштоўныя бібліятэчкі засталіся па сьмерці й іншых беларускіх эмігрантаў у Расеі: намесьніка Іверскага манастыра к. Ноўгараду Ёіля Труцэвіча (был., у 1623—54 гг., ігумена Куцейнаўскага манастыра ў Воршы й кіраўніка манастырскай друкарні) — кнігі пераважна куцейнаўскага друку, а із рукапісных невядомая сёньня «лѣтопись, мелкаго уставного письма, въ переплетѣ» (паводля вопісу 12. XI. 1673 г. — РИБ, т. 5, № 325) і архім. Спаскага манастыра й рэктара духоўнай сэмінарыі ў 1776—88 гг. у Яраславе Ёіля (Яна Быкоўскага, мажліва, із Менскага

ваяводзтва) — старадрукі, рэдкія рукапісныя кнігі, а ў тым і зборнік із адзіным, дайшоўшым да кан. XVIII ст. сьпіскам «Слова аб палку Ігаравым», трапіўшым у 1795 г. да графа А. Мусіна-Пушкіна, першага публікатара паэмы (Труды Отдела древнерусской литературы Института русской литературы АН СССР, т. 12, Москва-Ленинград, 1956 г., бб. 42-45; Полымя, 1971 г., № 11, б. 217).

Апрача таго, нам ведамыя бібліятэкі, пра якія мы хоць і не адшукалі дакумэнтальных сьведчаньняў із XII—XVIII ст. ст., але пра якія ёсьць большыя ці меншыя падставы меркаваць, што яны ўзьніклі ці маглі ўзьнікнуць перад XIX ст.: бібліятэка дамініканскага касьцёлу ў Віцебску, Дзявяткавіцкага двара ў Слонімскім пав., цэркваў у сс. Насілава к. Маладзечны й Жукаў Барок к. Стоўпцаў (мова пра іх наперадзе); дамініканскага манастыра ў Полацку, піярскага ў Шчучыне, бэрнардынскага ў Слоніме й цэркваў сьв. Юр'я й Раства Хрыстовага ў Слуцку (некаторыя весткі пра іх падае В. Цыбуля. Манастырскія і царкоўныя бібліятэкі ў Беларусі — час. «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», Мінск, 1970 г., № 3, бб. 50-51); Віленскага Сьвятадухаўскага манастыра (пры якім у XVII—XVIII ст. ст. была друкарня й якая пазьней мела «множество древнихъ рѣдкихъ изданій» XVI—XVIII ст. ст. і манастырскі архіў старых актаў — Л. И. Денисовъ. Православные монастыри Россійской имперіи, Москва, 1908 г., бб. 62-63), графаў Тызэнгаўзаў у Паставах (адзін зь якіх, Антон, скарбны літоўскі, меў у Горадні ўласную друкарню), Забельскай (у м. Вальнцох) дамініканскай гімназіі к. Дзісны (пра яе ёсьць сьведчаньні з 1822 г. — АСД, т. 14, б. 128), графаў Гутэн-Чапскіх у двары Станькава к. Койданава (рукапісныя зборы зь

Старшыня Віленскай археаграфічнай камісіі расейскі славісты П. Бяссонаў, які ў 1860-ых гг. зьбіраў у Беларусі фальклёрныя матар'ялы, сьцьвярджаў, што беларускі «Край . . . даже до послѣдняго времени на 25 квадратныхъ верстъ выставлялъ по крайности по одной обширной библіотекѣ, кромѣ мелкихъ»[71]). Гэта, бязумоўна, пераўвялічэньне, але, відаць, ня так далёкае ад праўды. Да нашых няпоўных сьведчаньняў можна было-б бяз рызыкі дадаць, што большыя ці меншыя бібліятэкі былі пры кожным манастыры, шмат якіх цэрквах[72]), усіх калегіях і

---

ле, а ў тым і ведамы сьпісак Ліста да Абуховіча, вывезеныя ў бібліятэку князёў Чартарыйскіх у Кракаў), бэрнардынскага касьцёлу ў м. Будславе на Вялейшчыне й г. д. Апошняя, што дахавалася ў скляпеньнях касьцёлу, фундаванага ў 1504 г. в. кн. Аляксандрам Казімеравічам, была выяўленая жыхарамі Будслава ў 1961 г. і перададзеная Дзяржаўнаму гістарычнаму музэю БССР у Менск. Які оклад ле быў раней — невядома, але ў 1961 г. тут было болей за 1.000 кніг XVI—XVIII ст. ст., галоўна ў лацінскай мове, друкаваных як у Беларусі (Нясьвіж, Полацак і інш.), так і ў заходня-эўрапэйскіх друкарнях (Вэнэцыя, Ляйпцыг, Франкфурт на Майне, Цюрых, Ліён, Льеж, Данцыг і інш.) — Полымя, 1961 г., № 8, б. 191.

71) Петръ Безсоновъ. Бѣлорусскія пѣсни, Москва, 1871 г., б. V.

72) Можна, прыкладам, дадаць тут пра сьведчаньні аб кнігах у 1571 г. у Росьскай царкве Ваў-

іншых школах, княжых і магнацкіх дварох і г. д. Актыўнасьць беларускіх асяродкаў перапісваньня кніг у XI—XVII ст.ст. і шматлікіх друкарняў у XV—XVIII ст.ст. можа найлепей прамаўляць за гэта.

Блізу ўва ўсіх выпадках у паказаных намі крыніцах даюцца тыя ці іншыя дадзеныя пра бібліятэкі.

У вадных із іх ёсьць дадзеныя пра ахвяры бібліятэкам на набыцьцё кніг. У 1623 г. пісар Вялікага княства Літоўскага Вярбіцкі запісаў Віленскай язуіцкай акадэміі адзін свой двор з тым, каб із прыбыткаў гэтага двара 100 залатовак штогоду ішло на куплю кніг для бібліятэкі акадэміі. У 1649 г. кн. Багуслаў Радзівіл купіў за 5.000 залатовак бібліятэку памерлага А. Дабранскага для Слуцкай кальвінскай калегіі[73]). У 1661 г. настаўнік сьпеву ў Жыровічах а. Гіляры Скаржынскі ахвяраваў бібліятэцы Жыровіцкага манастыра на кнігі 2.500 залатовак.

---

кавыскага пав. (АСД, т. 1, 1867 г., б. 146). У рэвізіі вуніяцкіх прыходаў Наваградзкага й Цырынскага дэканатаў за 1798 г. прыводзяцца кароткія сьпісы рукапісных і друкаваных кніг у цэрквах м. Палонка (АСД, т. 13, 1902 г., бб. 156-158), м. Востраў, с. Астраўкі (Там-жа, б. 182) і інш.

[73]) Як устанавіў віленскі дасьледчык гісторыі гэтай самай багатай кальвінскай бібліятэкі ў Беларусі В. Студніцкі, кнігамі яна папаўнялася й у XVIII ст. Яшчэ ў 1829 г. случчак Юры Аколаў падараваў ёй болей за 1.000 кніг, частка якіх паходзі-

У бальшыні крыніцаў прыводзяцца дадзеныя пра колькасьць кніг у бібліятэцы, пра мовы, у якіх яны пісаныя ці друкаваныя[74]), даюцца назвы кніг і г. д. У сьведчаньні 1623 г. пра бібліятэку Жыровіцкага манастыра ёсьць усяго агульная заява, што ў ёй былі «эвангельлі й шмат кніг царкоўных», тады як у наданьні манастыру новага ўласьніка Жыровічаў каштэляна Івана Мялешкі ў 1613 г. быў «падрабязны інвэнтар». Кнігі бібліятэкі магілёўскага войта Х. Казановіча апісаныя паводле іхнага фармату ці месца пераxаваньня: вялікіх — 15, «вполдесть» — 33, у чацьвёрку — 24, аркушовых — 4; каля 10 кніг — у шкатулцы; апрача таго — дзёньнікі «рускі» (беларускі) і польскі. Бібліятэка вялікага князя ў Вільні ў 1510 г. мела 90 кніг у чатырох мовах — царкоўнаславянскай, беларускай, лацінскай і чэскай (4 кнігі). У царкоўнаславянскай і беларускай мовах гэта былі кнігі багаслужбовыя, біблійныя, навукова-

---

ла зь бібліятэкі Браніцкай, сястры караля Станіслава Аўгуста (А. Мальдзіс. Сьляды продкаў, б. 12).

[74]) Тут ня выключаюцца й кнігі ў лацінскай і іншых мовах, тымбалей, што ў Беларусі лацінская мова была аднэй із моваў пісьменства. Дадамо для аналёгіі, што «в единственной государственной библиотеке России», у бібліятэцы АН у Пецярбургу, у 1725 г. расейскіх кніг было ўсяго 2%, а ў кан. XVIII ст. — 9%; рэшта-ж — «на всех прочих языках в совокупности» (Книга, сб. 10, 1965 г., бб. 273-274).

тэалягічныя (Яна Залатавуснага, Васіля Вялікага й інш.) і мастацкае літаратуры (чэцьці-мінеі, пралог, паасобныя жыцьці, летапісец і г. д.) — усіх 38. У часе 1545—62 гг. колькасьць кніг у бібліятэцы была збольшана да 2.873 тамоў. У 1570 г. яна мела ўжо 4.000. Бібліятэка біскупа Валерыяна, перададзеная па ягонай сьмерці (1579 г.) бібліятэцы Віленскай акадэміі, мела некалькі тысяч кніг. У бібліятэцы бурмістра С. Лябедзіча спасярод друкаваных кніг — выданьні Ф. Скарыны, Віленскага Траецкага манастыра, Мамонічаў, Астроскай друкарні й інш. Із кніг Куцейнаўскага манастыра (калі ня браць на ўвагу некалькіх ведамых рукапісных кніг) захаваўся сьпіс толькі друкаў — 1206 кніг выданьня манастырскай друкарні 1632—54 гг. Бібліятэка падканцлера К. Сапегі ў 1655 г. мела болей за 3.000 кніг. Дамініканская ў Горадні ў кан. XVIII ст. — 10.000 тамоў. Нясьвіская бібліятэка Радзівілаў у 1772 г. налічвала блізка 20.000 кніг у розных мовах, а ў тым і беларускай. Бібліятэка ў Шчорсах за канцлера Якіма Храбтовіча, гісторыка й археоляга (4-ая чвэрць XVIII ст.), мела некалькі дзясяткаў тысяч тамоў, зь якіх болей за 6.000 рэдкіх выданьняў і ўнікальных рукапісаў, найбольш з гісторыі й этнаграфіі Беларусі й Польшчы. Паводля справаздачы з 18. XI. 1801 г. (г. зн. на 6-ым годзе маскоўскай акупацыі заходняй Беларусі), у бібліятэках пазуіцкіх базылянскіх і піярскіх гімназіяў і

калегіяў яшчэ было кніг: у Горадні — 3128, Навагрaдку — 908, Лідзе — 627, Шчучыне — 318, Жыровічах — 304, Барунах — 226, Слоніме — 210, Берасьці — 142, Лыскаве — 56 і г. д. і ўжо значна меней на землях, акупаваных на 2 гады раней (у Мазыры — 51, Менску й Бабруйску — па 48, Пінску — 45, Паставах — 42, Слуцку — 29, Халопенічах — 21), а ўсяго разам — 6296. Трэба думаць, што гэта былі кнігі ня толькі з XVIII, а й папярэдніх стагодзьдзяў — старадрукі й рукапісы. Багатымі былі бібліятэкі вышэйшых школаў, асабліва Віленскай акадэміі (18.000 тамоў у кан. XVIII ст.) і Полацкай калегіі (болей за 23.000 у пач. XIX ст.).

Аднак самай багатай із старэйшых беларускіх бібліятэк была, відаць, бібліятэка Сафійскага сабору ў Полацку, ведамая ад XII ст. У 1579 г. па вызваленьні горада ад маскоўскіх войскаў Івана Грознага, акупаваўшых Полацак у 1563 г., паводля прыгадваных нататак сакратара С. Баторага Р. Гайдэнштайна, у саборы «знайшлі ... вельмі багатую бібліятэку. Як сьведчылі адукаваныя людзі, мо багацейшую, чымся ўся здабыча разам. У ёй былі розныя летапісы, а найболей — працаў дактароў грэцкае царквы, спаміж якіх і «Нябесная й царкоўная гіерархія» Дзяніса Арэапагіта. Усе гэтыя кніжкі пісаныя славянскай[75]) мовай ...» Царкоўны гіс-

---

[75]) Г. зн. пацаркоўнаславянску й пабеларуску.

торык XVIII ст. І. Сьцябельскі, які спэцыяльна дасьледаваў гісторыю Полацкай Сафіі, у менаванай намі публікацыі да папярэдняга дадаў, што «у гэтай знакамітай бібліятэцы», каторая мела «дужа шмат» кніжок, із рэдкіх кніг, апрача твору, прыпісванага вучню апостала Паўла Дзянісу, «былі і якіясь кнігі сьвятога Мятода, славянскага апостала, ды брата ягонага, сьвятога Кірылы . . . »[76]

Архівы Беларусі бяруць свой пачатак ад XII—XIII ст.ст. Пра найстарэйшы зь іх — **Архіў старажытных актаў Полацкага княства ў Бельчыцкім Барысаглебскім манастыры**[77]), дзе былі дакументы ад XII ст. — у пач. XIX ст. сьведчыць археограф П. Кэпэн.[78]

Справай арганізацыі й утрыманьня архіваў у Вялікім княстве Літоўскім займаўся сам урад. **Галоўны дзяржаўны архіў** да 1511 г. знаходзіўся ў Троцкім вялікакняжым замку. У сярэдзіне 1480-ых гг. в. кн. Казімер рэарганізаваў яго: ён загадаў, апрача далей-

---

76) М. Улашчык. Кніга пра Полацкую зямлю — Полымя, 1967 г., № 4, б. 239.

77) У Бельчыцах (пад Полацкам) была рэзыдэнцыя Полацкіх князёў, а ў манастыры — Полацкіх архіяпіскапаў.

78) Рукапісны «Путевыя записки 1821 года Петра Кеппена» — Архіў АН СССР у Ленінградзе, ф. 30, воп. 1, спр. 136, бб. 23-24 (Л. В. Алексеев. Полоцкая земля в IX—XIII вв., АН СССР, Москва, 1966, бб. 11 і 229).

шага перахоўваньня ўсіх арыгінальных дакумантаў, для важнейшых зь іх завесьці кнігі, куды із арыгіналаў былі ўпісаныя ранейшыя дакуманты, пачынаючы ад 1386 г., і для сталага ўпісваньня ў іх наступных. Так паўстала пры Галоўным архіве г. зв. Літоўская Мэтрыка — самы поўны й дакумэнтальны летапіс Вялікага княства Літоўскага. У 1511 г. архіў быў перавезены ў Віленскі замак. Тут, на загад канцлера Л. Сапегі, усе кнігі Літоўскай Мэтрыкі ў працягу 14 год (1594—1607) былі перапісаныя нанова, а старыя пакладзеныя на схоў у скарб.[79]) Галоўны архіў із Літоўскай Мэтрыкай былі пад апекаю самога канцлера й загадам сакратара ўраду.[80]) У кан. XVIII ст., пасьля колькіразовых выпадкаў гібелі часткі ягоных кніг і дакумантаў, ён меў вялізарную колькасьць арыгінальных дзяржаўных актаў[81]) і 566[82] тамоў

---

79) У 1773 г. для архіву Каароннай Мэтрыкі ў Варшаве із Літоўскай Мэтрыкі былі перапісаныя лацінкай дакументы 1386—1511 гг. — 29 тамоў.

80) Аб гэтым зазначалася й у загалоўках кніг, прыкладам: «...за справованья в тот часъ (...въ року 1597) Метрикою... Александра Корвина Кгосевъского, писара его милости канцлярейского...» (Кніга Запісаў 3).

81) Пра гэта можа сьведчыць такі факт: калі ў 1636 г. архіў спатрэбілася забраць із вялікакняжага замку, для яго былі набытыя два асобныя мураваныя будынкі — дом Яна Ключатага на Ві-

in folio Літоўскай Мэтрыкі за 409 год (1386—1794) беларускай гісторыі.[83])

У сяр. XVI ст. пастановамі соймаў былі рэарганізаваныя **архівы ўсіх паветавых**[84]) і **ваяводзкіх**[85]) **судоў**,[86]) адкалі ў іх усюды былі заведзеныя актавыя кнігі, якія ад кан. XV — пач. XVI ст.ст. ужо вяліся ў замкавых судох і некаторых адміністрацыйных установах. Тады-ж паўставалі **магістрацкія** (і **магдэбурскія**) **архівы** ўва ўсіх беларускіх га-

---

ленскім рынку й блізка ад яго дом Ланга на Шкляной вуліцы.

82) ЭС, т. 19, 1896 г., б. 199.

83 З. Даўгла Літоўская Мэтрыка і яе каштоўнасьць для вывучэньня мінуўшчыны Беларусі — ІБК ПЗБАА, Рэфэраты, бб. 53-59; яго-ж. Літоўская Мэтрыка, Рыга, 1933 г.; Н. Г. Бережков. Литовская Метрика как исторический источник, ч. 1, АН СССР, Москва-Ленинград, 1946 г., бб. 3-6; В. И. Пичета. Белоруссия и Литва XV—XVI вв., АН СССР, Москва, 1961 г., бб. 647-650, і інш.

84) Пастанова Верасьцейскага сойму 1544 г., арт. 23 — C. Działyński. Zbiór praw Litewskich od roku 1389 do roku 1529. Tudzież rozprawy sejmowe o tychże prawach od roku 1544 do roku 1563, Poznań, 1841, б. 412.

85) Пастанова Віленскага сойму 1551 г., арт. 6 — Там-жа, б. 455.

86) Археограф Лялін сьведчыць, што ў Віленскім, Троцкім і Менскім ваяводзтвах было ўсіх 203 суды, і кожны зь іх меў свой архіў (В. А. Лялинъ. Виленскій Центральный Архивъ — Сборникъ Археологическаго Института, СПБ, 1878 г., кнг. 1, отд. 1, б. 25).

радох: пра некаторыя зь іх, прыкладам, пра Магілёўскі, ёсьць сьведчаньні ў летапісах,[87] а пра іншыя сьведчаць самыя архівы, што часткава ўцалелі й апублікаваныя.[88])

У І-ай пал. XVII ст. канчальна сфармаваліся **архівы Галоўнага трыбуналу** ў месцах ягоных сэсіяў — **у Вільні**,[89]) **Навагрудку**[90]) **й Менску**.[91])

Апрача таго, у XIV—XVIII ст.ст. **узьніклі царкоўныя архівы** — мітрапалічы, эпархіяльныя, манастырскія й некаторыя прыхадзкія розных веравызнаньняў (інфармацыі пра іх будуць прыведзеныя пазьней) і **архівы прыватныя** — пераважна князёў (Мсьціслаўскіх, Лукамскіх, Слуцкіх, Кобрынскіх, Агінскіх і г. д.) і магнатаў (Гаштаўтаў, Хадкевічаў, Валовічаў і г. д.). Із апошніх, што дожылі да XIX і XX ст.ст., найбольш ведамыя

---

87) Летапіс Магілёва пад 1708 г. — АСД, т. 2, 1867 г., б. LXII.

88) АВАК, т. 6 (Берасьце, Кобрын, Камянец), тт. 9 і 10, 1878 і 1879 гг. (Вільня), т. 39, 1915 г. (Магілёў) і інш.; ИЮМ, тт. 4-6, 1873—1874 гг. (Полацак), тт. 7-17, 30 і 32, 1876—1888, 1903 і 1906 гг. (Магілёў), тт. 17 і 18, 1888 г. (Крычаў), тт. 18 і 19, 1888 і 1889 гг. (Віцебеск) і інш.

89) Для Віленскага, Троцкага й Полацкага ваяводзтваў — АВАК, тт. 11-13 і 15, 1880—1886 і 1888 гг.

90) Для Наваградзкага й Берасьцейскага ваяводзтваў — Россія, б. 540.

91) Для Менскага, Віцебскага й Мсьціслаўскага ваяводзтваў — АШ, § 35.

— князёў Сапегаў у Дзярэчыне,[92]) графаў Храбтовічаў у Шчорсах[93]) і Бешанковічах,[94]) князёў Любецкіх у Шчучыне,[95]) графаў Цішкевічаў у Лагойску,[96]) князёў Вішнявецкіх у Брагіне[97]) й Прозараў у Хойніках.[98])

Асобна мусім назваць **Нясьвіскі архіў** у замку князёў Радзівілаў.[99]) Хоць тут і была частка дакумантаў прыватных (акты саміх Радзівілаў, Кішкаў і іншых — да 8.400 сем'яў), у сваёй асноўнай частцы ён меў характар дзяржаўнага, дзеля чаго й заснаваны быў у 1551 г. адумысловым прывілеем в. кн. Жыгімонта Аўгуста.[100]) У архіве захоўваліся арыгіналы (рэдка — копіі) вялікакняжых і каралеўскіх прывілеяў, унівэрсалаў, лістоў і іншых дакумантаў; соймавыя дзёньнікі (31 сойму — 36 тамоў); канцлерская мэтрыка Мі-

---

92) М. О. Безъ-Карниловичъ. Историческія свѣденія о примѣчательнейшихъ мѣстахъ въ Бѣлоруссіи, СПБ, 1855 г., бб. 49, 89 і 144; Иконниковъ, т. 1, кнг. 1, бб. 258-259 і т. 1, кнг. 2, бб. 1237-1238.

93) Polski Słownik Biograficzny, там-жа; Сьцяпанаў, там-жа.

94) АЩ, § 131.

95) Иконниковъ, т. 1, кнг. 2, б. 1237.

96) Там-жа, б. 1238.

97) Там-жа, б. 1239.

98) Там-жа.

99) Пазьней іншым разам ён, як і бібліятэка, быў у палацы Радзівілаў у м. Палонка к. Міра.

100) Volumina legum, выданьне 2-ое, т. 7, СПБ, 1860 г., бб. 399-400.

калая Радзівіла за 1511—18 гг.; царкоўныя акты праваслаўнай, каталіцкай, пратэстанцкай і вуніяцкай цэркваў; вялікі збор лістоў шматлікіх дзяржаўных мужоў (Хадкевічаў, Сапегаў, Астроскіх і г. д.), і інш. У 1867 г., пасьля рабункаў і паленьняў архіву ў 1814—1836 гг., у ім яшчэ засталося (без далучанага к таму часу збору кн. Вітгэнштэйна) 254.846 дакумантаў, пачынаючы ад XIV ст., спаміж якіх — 1.246 пэргамінных.[101])

Падобна бібліятэкам, якія мелі каталёгі кніг, галоўнейшыя архівы мелі рэестры дакумантаў — усіх ці мінімальна выдатнейшых.[102])

Пра ахову архіваў былі спэцыяльныя ўрадавыя пастановы й асобны артыкул[103]) у Ста-

[101]) П. А. Гильтебрандтъ, уступны артыкул да АСД, т. 7, 1870 г.; Иконниковъ т. 1, кнг. 2, бб. 1239—1241; Dr. E. Barwiński. Archiwum ks. Radziwiłłów w Nieświeżu — Archiwum Komisyi Historycznej, t. 11, Kraków, 1909—1913, бб. 1-10; АШ, § 98.

[102]) У кнігах Літоўскай Мэтрыкі гэта адзначана ў іхных загалоўках: «Мэтрыка привильевъ, данин, потверженей и иншых розных справ короля его милости Жикгимонта Першого от року 1518 до року 1523. Переписана, *зрэестрована* (падкр. нашае — АК) и знову интроликгована за роказаньем ясневелможъного пана его милости, пана Льва Сапеги, канцлера Великого князства Литовского... в року тысеча пятьсот девятьдесятъ осмомъ» (Кніга Запісаў 10). У Нясьвіскім архіве рэестры былі блізу на ўсе дакуманты (Гильтебрандтъ, там-жа).

[103]) Арт. 13, разьдз. IV.

туце 1588 г. У часе войнаў важнейшыя зь іх эвакуяваліся із раёнаў вайсковых дзеяньняў. Таму пра Нясьвіскі архіў, прыкладам, у пастанове сойму 1768 г. сьведчыцца, што ягоныя дакуманты «у працягу стагодзьдзяў захоўваюцца дбайна й пэўна . . . А ў часе былых войнаў . . . князі, пакінуўшы свае каштоўнасьці на рабунак ворагу, вывозілі архіў, выдаткоўваючы свае значныя сродкі й перахоўваючы яго ў бясьпечных месцах»[104]).

### Сьведчаньні пра гібель помнікаў пісьменства

Які-ж лёс спаткаў помнікі беларускага пісьменства X—XVIII ст. ст.?

Шмат іх не дайшло да нас **з прычынаў натуральнага зносу.**

Шмат **згарэла ў пажарах** Вільні (бібліятэка язуіцкай акадэміі й бібліятэкі й архівы япіскапскіх палацаў — у 1610 г.[105]), Віцебску (бібліятэкі й архівы Маркавага манастыра й колькіх блізкіх прыходаў і прыватных асобаў зь Віцебску, што былі на перахаваньні ў манастыры — у 1685 г.[106]), бібліятэка дамініканскага касьцёлу із зборам к. 600 кніг

---

104) Volumina legum, там-жа.

105) АШ, § 14 (Описаніе рукописнаго отдѣленія Виленской Публичной библіотеки, Вильна, вып. 1, 1895 г., б. XIII).

106) Там-жа, § 25.

друку XV—XVIII ст. ст. — у 1869 г.[107]), Менску (358 актавых кніг 1641—1761 гг. Галоўнага трыбуналу — у 1762 г.[108]), Наваградку (архіў земскага суда — у 1764 г.[109]) і г. д.

Яшчэ болей іх загінула ад пажараў, зруйнаваньняў і рабункаў у войнах, пераважна із Масковіяй.

У 1611 г. згарэла багатая бібліятэка Усьпенскага сабору ў Смаленску, узарванага й падпаленага невядома кім[110]). «Книги справъ мѣскихъ Полоцкихъ по окрутномъ сплюндрованью мѣста Полоцкого (войскам маскоўскім — АК) въ року ... 1633 ... всѣ ... погорели»[111]).

У 1654 г. загінулі бібліятэкі зруйнаваных і спаленых тым-жа войскам язуіцкіх калегіяў у Віцебску, Воршы й Полацку й 36 касьцёлаў і манастыроў Магілёўшчыны й Віцебшчыны[112]), а ў спаленым Мсьціславе — ягоныя найстарэйшыя архівы[113]). У наступным

---

107) Там-жа, § 102.

108) АВАК, т. 13, № 68.

109) АШ, § 36.

110) Там-жа, § 15.

111) АСД, т. 1, б. IX.

112) И. Митрошенко. Іезуиты въ восточной части Бѣлоруссіи съ 1579-го по 1772-й г. – Полоцко-Витебская старина, вып. 2, Витебскъ, 1912 г., бб. 60, 102, 103; АШ, § 17.

113) АШ, § 17.

годзе ў палаючай Вільні згарэла шмат кніг Літоўскай Мэтрыкі[114]). Найбольш пацярпелі ў вайну 1654—67 гг. кнігі, багата й памастацку аздобленыя: із аднаго Супрасьльскага манастыра ў 1656 г. было забрана, разам зь іншымі кнігамі й дарагімі царкоўнымі рэчамі, тры эвангельлі апракос у вабкладах із каляровых аксамітаў, прыбраных золатам і серабром[115]). Ведамы магілёўскі палкоўнік К. Паклонскі ў лісьце да наказнога ўкраінскага гэтмана Ів. Залатарэнкі ўжо ў сакавіку 1655 г. пісаў, што ад Масквы ў 1654—55 гг. «мелі мы такое рабаўніцтва дамоў Божых (г. зн. цэркваў і манастыроў — АК), якога ня бачылі і ад татараў»[116]). Беларускіх кніжок тады так шмат трапіла ў рукі маскоўскіх жаўнераў, што па заканчэньні вайны цар Аляксей Міхайлавіч вырашыў зьбіраць іх: у 1672 г. ён загадаў Пярэмыскаму[117]) ваяводзе адбіраць у жыхароў свайго ваяводзтва «польскіе и латинскіе печати книгъ и всякихъ писемъ, ко-

---

[114]) Другая частка кніг у 1659 г. па дарозе із Швэцыі затонула ў Балтыцкім моры — Н. Янчук. Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры, Менск, 1922 г., б. 61; Бережков, б. 6; А. Булыка. Літоўская Мэтрыка — Полымя, 1968 г., № 2, б. 249.

[115]) АСД, т. 9, бб. 204—205.

[116]) Праф. Л. Акіншэвіч. Крывіцкае казацтва ў XVII ст. — час. «Сакавік», 1948 г., Остэргофэн (Нямеччына), № 1/2, б. 45.

[117]) г. Пярэмышль — зараз-жа на поўдзень ад Масквы.

торые взяты въ польскихъ[118]) городѣхъ во время войны»[119]).

У 1708 г. загінулі блізу ўсе царкоўныя й прыватныя бібліятэкі й архівы Магілёва й Віцебска, разрабаваных і спаленых на загад Пятра I ягоным войскам[120]).

Нямала помнікаў пісьменства загінула ў вайну 1812 г.: толькі ў Смаленску згарэлі старыя дакуманты архіву Смаленскага магістрату[121]) й губэрнскага архіву[122]), архіў Лідзкага замку (вывезены ў Смаленск войскамі Пятра I у пач. XVIII ст.[123]), архівы г. Мсьціслава (19 вялікіх пакункаў і 6 скрыняў), эвакуяваныя туды перад прыходам напалеонаўскай арміі[124]).

У канцы 1918 г. была спаленая бібліятэка ў двары Грабніцкіх у Дрысенскім пав., якая

---

118) Так тут названыя беларускія кнігі й гарады; да польскіх гарадоў маскоўскае войска не даходзіла.

119) Н. Оглоблинъ. Къ исторіи гоненій на «литовскія книги» въ XVII вѣкѣ — Библіографъ, СПБ, 1899 г., № 5.

120) Летапіс Магілёва, 8. IX. 1708 г. (АСД, т. 2, бб. LXI—LXII); Летапіс Віцебска, 28. IX. 1708 г. (Россія, бб. 454—455); АШ, § 28.

121) АШ, § 49.

122) Там-жа, § 51.

123) Палеес, бб. 136—138.

124) АШ, § 56 (А. Жиркевичъ. Смоленскія архивы въ 1812 г. — Смоленская старина, 1909 г., вып. 1, ч. 1, бб. 357—358).

мела болей за 100 беларускіх рукапісных кніг XII—XVI ст. ст.[125]).

І г. д. [126]).

Такія прычыны й акалічнасьці гібелі помнікаў пісьменства ёсьць аднак агульнымі для гісторыі ўсіх народаў. Розьніца можа быць адно ў памерах стратаў. Адрозьненьне-ж — у лёсе тых памнікаў, каторыя не загінулі ад ізносу, у пажарах і войнах. У Беларусі іх спаткаў лёс народу, заваяванага й асуджанага на нацыянальнае забойства: за малымі выключэньнямі, яны былі забраныя ад народу, які іх тварыў, і далучаныя да скарбаў заваёўніка ці зьнішчаныя.

## Вывазы помнікаў пісьменства із Беларусі

Гаворка тут будзе галоўна пра пляінаваныя вывазы, **адміністрацыйна прадпісаныя** ў акцыях вывазаў розных культурных каштоўнасьцяў із каляніяльнага краю ў мэтраполію.

Пры нагодзе заўважым, што некаторыя беларускія кніжкі трапілі паза межы Беларусі гандлёвай дарогай. Лявон Мамоніч у

---

125) АШ, § 127.

126) АВАК, т. 34, № 178 (Магілёў, 1661 г.); АШ, § 29 (В. Сабининъ. Охорскій Преображенскій монастырь — Могилевскія Епархіальныя Вѣдомости, 1889 г., № 21, бб. 310—311); АШ, § 44 (Слуцак, 1812 г.); АШ, § 64 (Нясьвіж, 1813 г.); R. Ziemkievič. Vasil Ciapinski — Biełaruskaje žyćcio, Vilna, 1919 h., N. 5 (m. Krošyn, 1916 h.) і інш.

У Нясьвіскім архіве Радзівілаў Я. Палькоўскі[255] ў 1881 г. знайшоў інвэнтар друкаў Слуцкай друкарні кн. Людвікі Радзівіл, дачкі патрона пратэстантаў у Беларусі кн. Багуслава. Інвэнтар гэты, уложаны ў 1687 г. «rejestruje (за час ад 1670 г.) 23 pozycje, z których większości nie tylko dziś nie znamy, ale nie możemy zidentyfikować. Z zachowanych i zarejestrowanych przez bibliografię druków możemy jedynie wskazać ok. 11 tytułów»,[256] хоць друкарня ў Слуцку была дзейнай яшчэ й пасьля 1687 г. А. Мальдзіс, які ў 1970 г. знайшоў той-жа інвэнтар (ці іншы ягоны экзэмпляр) у Львове, пытаецца: «Што хаваецца . . . за . . . запісамі» гэтага інвэнтара: «Тэорый рускіх» — экз. 80, «Дзёньнікаў» — 2020, «Школак» — 3091, «Працэсаў» — 1006, «Гаспадароў» — 1.000, «Формулак» — 414, «Табліц гарызантальных» — 100, «Аб злучэньні рэк» — 640, «Хрысьціянскіх заўваг» — 250, «Лемантароў» — 3389? На якой мове ўсё гэта друкавалася? І ці ня тояцца тут невядомыя сёньня творы старой беларускай літаратуры?»[257]

Перад 1893 г. у Менску зьніклі ўсе гістарычныя дакуманты з архіву Менскай і Тураўскай эпархіі[258].

---

255) J. Polkowski. Notatka o drukach Słuckich — Przegląd bibliograficzno-archeologiczny, т. I, 1881, бб. 86—88.

256) Drukarze, б. 232.

257) А. Мальдзіс. Сьляды продкаў — ЛІМ, № 56/2517, б. 12.

258) АШ, § 187.

Увогуле, паводля сьведчаньняў з 2-ое палосы XIX ст., беларускія кнігі, рукапісы й дакуманты «ў розныя часы забіраліся рознымі асобамі, які не пакідалі ніякіх сьлядоў прыналежнасьці іх»[259] тэй бібліятэцы ці архіву, скуль яны ўзятыя, і «якія дакуманты й кнігі большай часьцю зьнікалі»[260]. І гэта із такіх старых бібліятэк і архіваў, дзе былі рэзыдэнцыі мітрапалітаў і япіскапаў, як Жыровіцкага[261], Супрасьльскага[262], Пінскага Ляшчынскага[263] манастыроў, і іншых збораў[264].

Невядома дагэтуль, калі й пры якіх акалічнасьцях зьніклі шматлікія названыя й неназваныя намі цэлыя старыя беларускія бібліятэкі й архівы, як і пазьнейшыя зборы зь іх, а ў тым — Полацкага Сафійскага сабору, Жыровіцкага базылянскага манастыра, Слуцкага Траецкага манастыра й г. д. Калі ў вайну 1654—67 гг. маскоўскае войска часова заняла Полацак (17. VII. 1654 г.), акупацыйныя ўлады адразу-ж пачалі інвэнтарызацыю маёмасьці. У вадным із іхных інвэнтароў («Сметная книга» Полацка за 1654 г.) пры апісаньні Сафійскага сабору зазначана, што ў ім ёсьць «пять

[259]) Там-жа, § 180.

[260]) Там-жа, § 87.

[261]) Там-жа, § 180.

[262]) Там-жа, § 87.

[263]) Там-жа, § 199.

[264]) Там-жа, §§ 97, 166, 182, 183, 194 і 195.

[265]) Відаць, царкоўнаславянскімі, паводля тэрміналёгіі маскоўскага пісара.

сундуковъ съ русскими[265] и съ литовскими[266] и съ латынскими съ разными книгами»[267]. Мы ня ведаем, ці тут былі ўсе кнігі Сафійскай бібліятэкі, як і ня ведаем усёй гісторыі гэтых «сундуковъ»: ці іх не пасьпелі эвакуяваць із Полацка перад прыходам войскаў ворага, ці гэта ўжо трафэі, падрыхтаваныя на вываз у Маскву. Зноў-жа «із Львоўскіх дакумантаў (пра Жыровіцкі манастыр — АК) ... відаць, што ящчэ ў 1886 г. 4867 друкаваных і рукапісных кніг з базылянскай бібліятэкі знаходзілася ў Жыровічах у вялізных шафах, зацягнутых дротам і забітых дошкамі»[268]. У 1895 г. некаторыя кнігі зь ее трапілі ў Віленскую Публічную бібліятэку, але лёс цэлай бібліятэкі (г. зн. кніг, што тады-ж часова былі перавезеныя ў муры Віленскага Траецкага манастыра, і тых, што засталіся ў Жыровічах[269]) — невядомы.

Зьніклі канфіскаваныя ў 1930-ых гг. пры арыштах іхных уласьнікаў у БССР прыватныя зборы рукапісаў і старадрукаў беларускіх навукоўцаў В. Ластоўскага, А. Шлюбскага й М. Пятуховіча ў Менску, а таксама ў часе 2-ой сусьветнай вайны — збор гісторыка

---

266) Відаць, беларускімі. «Літоўскімі» кнігамі ў Маскве звалі беларускія.

267) А. П. Сапуновъ. Витебская старина, т. 4, Витебскъ, 1885 г., б. 292.

268) Мальдзіс, там-жа.

269) Цыбуля, там-жа, б. 51.

беларускае літаратуры Р. Зямкевіча ў Варшаве[270].

Факты паказваюць, што зьнікалі, як і нішчыліся, кнігі й рукапісы галоўна **ў нацыянальнай беларускай мове** й ня толькі пісьменьнікаў-пратэстантаў ці вуніятаў, але й праваслаўных. В. Сопікаў у пач. XIX ст. апісаў[271] першую кніжку, выдадзеную пабеларуску ў Нясьвіскай кальвінскай друкарні 20. X. 1561 г.[272] — С. Будны «О оправданіи грѣшного человѣка предъ Богомъ». І. Каратаеў ужо ня мог яе знайсьці й інфармуе аб ёй[273] паводля Сопікава, які із бібліёграфаў адзін «имѣлъ въ рукахъ эту книгу»[274]. Першую друкаваную пабеларуску кніжку ў Магілёве — праваслаўнае вучыцельнае эвангельле 1619 г. — бачыў

---

270) Тут былі старадрукі, пачынаючы ад Ф. Скарыны, і рукапісы XVIII-пач. XX ст.ст. (Генадзь Кісялёў. Загадка беларускай «Энеіды», Мінск, 1971 г., бб. 37—38).

271) Опытъ россійской библіографіи... Собранный изъ достовѣрныхъ источниковъ Васильемъ Сопиковымъ, ч. 1, СПБ, 1904 г. (выданьне 2) бб. LI і 168 (№ 793).

272) Паводля сучаснага студзеньскага календара (на кнізе стаяла дата тагачаснага верасьнёвага календара — 11. X. 1562 г.).

273 Описаніе славяно-русскихъ книгъ, напечатанныхъ кирилловскими буквами, т. I, съ 1491 по 1652 г. Составилъ И. Каратаевъ, СПБ, 1883 г., № 59.

274) Там-жа, б. 140.

таксама толькі Сопікаў[275]. Каратаеў[276] і іншыя інфармуюць аб ёй паводля яго. Вуніяцкі катэхізм — «Наука, яко вѣрити маеть каждый» — уложаны й выдадзены ў 1628 г. манахамі Віленскага Траецкага манастыра, апісаў у 1-ай пал. XIX ст. І. Сахараў[277]. Апісаны ім экзэмпляр тады належыў «библіотекѣ Московскаго типографскаго двора». Ні Каратаеў, ні іншыя бібліёграфы яго ўжо не знайшлі[278]. Праваслаўны «Трэбникъ», выдадзены ў 1618 г. «В Вилно, в Друкарни Братъской. Працею и старанемъ иноковъ» із асобным катэхізмовым разъдзелам «Наука о седми тайнахъ церковныхъ» (арк. арк. 1—178 першае пагінацыі), напісаным для «презвитеровъ», у 2-ой пал. XIX ст. Каратаеў пры апісаньні[279] трымаў у сваіх руках. Цяпер гэтага выданьня няма: захавалася іншае з таго самага году — толькі царкоўнаславянскі тэкст трэбніка, але без катэхізму пабеларуску[280]. Перад 2-ой сусьветнай вайной у вуніяцкім мітрапалічым архіве пры катэдры сьв. Юрага ў Львове захоўваўся «Кодэкс з далучэньнем справаздач аб манастырскім і школьным жыцьці базылянаў у

275) № 322.

276) № 250.

277) И. П. Сахаровъ. Обозреніе славяно-русской библіографіи, т. I, кнг. 1, СПБ, 1849 г., № 252.

278) Каратаевъ, № 328.

279) Там-жа, № 242.

280) Зернова, там-жа, б. 218.

Жыровічах на Слонімшчыне» (шыфр: Д-9), куды было ўпісана шмат арацыяў студэнтаў Жыровіцкай вуніяцкай калегіі з 1751—52 і 1761 гг.[281] Па вайне архіў гэты забраны ў Цэнтральны Дзяржаўны гістарычны архіў УССР у Львове (ф. № 201), але «Кодэксу» із арацыямі тут ужо няма[282], і. г. д.

Із помнікаў эпіграфічнага пісьменства найбольшая страта — крыж сьв. Афрасіньні Полацкай, зроблены на яе заказ у 1161 г. полацкім ювэлірам Лазарам Богшам. Пры нявыясьненых акалічнасьцях «крыж зьнік[283] із спэцперахаваньня Магілёўскага гістарычнага музэю пры заняцьці горада немцамі ў 1941 г.»[284]

---

281) Мальдзіс, там-жа, № 55/2516, б. 12.

282) Там-жа, бб. 12—13.

283) Не зважаючы на пісьмовае закляцьце на крыжы, забараняючае забіраць яго із Полацка, ужо ў вайну 1514 г., калі «благочестивый государь князь великий Василей Ивановичь» захапіў Смаленск, «тот честный кресть во царствующий градъ в Москву привезенъ» із Смаленска, куды к таму часу ён трапіў невядома зь якіх прычынаў. У маскоўскай казьне крыж праляжаў да 1563 г. У гэтым годзе Іван Грозны, ідучы вайною на Вялікае княства Літоўскае «и имея надежу... на крестьную силу», каб «победити врага своя», «взя с собою» яго ў Полацак (як сьведчыць пра ўсё гэта Ніканаўскі летапіс пад 1563 г .— Полное собрание русских летописей, т. 13, Москва, 1965 г., б. 347), дзе крыж і быў да 1928 г.

284) Л. Алексеев. Полоцкая земля в IX—XIII вв., б. 127, зноска.

У 1944 г., хутка па заняцьці Віцебска савецкім войскам, прафэсару мастацтвазнаўства М. Кацару «у Пакроўскай царкве . . . пашчасьціла ўбачыць (драўляную — АК) скульптуру Апанаса Філіповіча з датаю 1763 г. із надпісам . . . Нажаль, скульптуры гэтае тады не ўдалося з сабою забраць. Праз колькі месяцаў яна зьнікла, хутчэй за ўсё, была спалена»[285].

Некаторыя із зьнікшых помнікаў пісьменства могуць быць яшчэ адшуканыя, але бальшыня іх, трэба думаць, была зьнішчаная ў часе сыстэматычных чыстак бібліятэк, архіваў і музэяў. Бібліёграф А. Шлюбскі, на якога мы тут так часта спасылаемся, з гэтае прычыны пісаў: «Усім, хто працаваў над дасьледаваньнем гісторыі беларускага народу і беларускага краю, прыходзілася і прыходзіцца сустракацца з . . . нястачай кніжных скарбаў і рукапісаў . . . якімі ад самых даўных часоў была багата Беларусь. . . Дасьледчыкі . . . сочачы па бібліятэках і архівах вялікіх гарадоў Маскоўшчыны ці за рубяжом, з вялікімі мукамі знаходзяць патрэбныя ім матар'ялы, а найчасьцей зусім не ўдаецца знайсьці патрэбнага, бо шмат зьнішчана. Гэта сьведчыцца . . . усімі вучонымі, якія ў сваіх працах дакраналіся Беларусі»[286].

---

285) М. С. Кацер. Народно-прикладное искусство Белоруссии (от первобытного общества до 1917 г.), Минск, 1972, б. 92.

286) АШ, § 1.

## Спробы звароту ў Беларусь помнікаў беларускага пісьменства

Спробы гэтыя пачаліся на самым золаку адраджэньня беларускай дзяржаўнасьці ў 1917—18 гг. Ужо **Зьезд беларусаў-вайскоўцаў Заходняга фронту**, які адбываўся 18—24 кастрычніка 1917 г. у Менску, у сваёй рэзалюцыі патрабаваў, «каб усе . . . гістарычныя каштоўнасьці, а менавіта: акты, архівы, музэі, эвакуяваныя, а таксама калі-небудзь вывезеныя із Беларусі й былога Віленскага ўнівэрсытэту, былі вернутыя назад у Беларусь».[287]) «Поўны зварот эвакуяваных у Расею гістарычных помнікаў культуры, мастацтва . . . павінен быць праведзены неадкладна па сканчэньні вайны», — пісала (27 кастрычніка 1917 г.) **Вялікая Беларуская Рада** ў сваёй адозве да беларускага народу.[288]) У чэрвені 1918 г. **Урад БНР** зьвярнуўся праз свайго консула ў Маскве да расейскага савецкага ўраду із афіцыйнай просьбаю звароту ў Беларусь ейных архіваў.[289]) Крокі беларускага ўраду былі падтрыманыя зь Вільні й Горадні. «**Прэзы-**

---

287) час. «Чырвоны Шлях», Петраград, № 3—4, 25. VIII. 1918 г., б. 20 (гл. таксама перадрук рэзалюцыі ў «Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Мюнхэн, 1964 г., кнг. 3, б. 164).

288) Ф. Турук. Белорусское движение, Москва, 1921 г., б. 97.

289) Захват памятак старасьвеччыны і мастацтва — газ. «Гоман», Вільня, № 51/247 за 2. VII. 1918 г.

**дыюм Беларускае Рады ў Вільні**, даведаўшыся, што ў Расеі . . . адбываецца ліквідацыя звакуяваных зь Беларусі . . . культурна-прасьветных устаноў, упаўнаважыў **Горадзенскі Губэрнскі Цэнтральны Камітэт злучаных грамадзянскіх арганізацый** учыніць патрэбныя крокі перад расейскімі і нямецкімі ўладамі дзеля павароту памянутых устаноў у Беларусь і аднаўленьня тут іх чыннасьцяў; а таксама ўзяць на сябе ахарону і рээвакуацыю ўсіх вывезеных з нашага краю культурных цэннасьцяў, гістарычных помнікаў, музэяў, архіваў . . . ».[290]) Мажліва, што ў якойсь сувязі із гэтымі захадамі хутка пасьля іх «**палітычна-прававым пададдзелам Беларускага аддзелу ў Камісарыяце нацыянальных справаў**» у Маскве быў «апрацаваны» «праект дэкрэту аб звароце помнікаў навукі, літаратуры й мастацтва, вывезеных калі-небудзь із Беларусі» «і перададзены ў Цэнтральны Беларускі Камісарыят для правядзеньня яго ў жыцьцё».[291])

Аднак усе гэтыя законныя стараньні беларусаў расейскі савецкі ўрад поўнасьцю зьігнараваў. Таму пазьней, у 1920-ых гг., просьбы звароту былі паўтораныя.

---

[290] Аб паварот культурных цэннасьцяў — Гоман, № 51/247.

[291]) «Чырвоны Шлях», там-жа («Запісы . . . », б. 165).

У 1925 г. **рэктар Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту ў Менску** праф. У. Пічэта езьдзіў у тагачасную сталіцу УССР Харкаў, каб прасіць Наркамасьветы УССР вярнуць Шчорсаўскую бібліятэку й архіў із Кіева ў Менск ня толькі дзеля таго, што бібліятэка гэтая й архіў беларускія, у Кіеў былі эвакуяваныя часова, але яшчэ й таму, што ўласьнік іхны, граф Храптовіч, адказаў іх першаму ўнівэрсытэту, які зноў будзе адчынены ў Беларусі. Хоць Наркамасьветы УССР і запэўніў У. Пічэту ў звароце бібліятэкі й архіву,[292] нажаль, гэта былі толькі словы.

17—18 студзеня 1926 г. у Менску абрадаваў **1-шы зьезд беларускіх археолягаў і археографаў**, скліканы Інстытутам Беларускае Культуры. Абмеркаваўшы на ім прыгадваныя намі рэфэраты пра лёс помнікаў старога беларускага пісьменства, зьезд прыняў у гэтай справе тры рэзалюцыі. У рэзалюцыі № 1, «Аб Літоўскай Мэтрыцы», было сьцьверджана, «што вывучэньне і распрацоўка даных аб мінулым Беларусі . . . немагчыма бяз сталага і непасрэднага карыстаньня Літоўскай Мэтрыкай»; а таму «Зьезд лічыць неабходным якнайхутчэй перавезьці архіўны фонд Мэтрыкі Літоўскай у БССР».[293]) У рэзалюцыі № 2, «Аб беларускіх архіўных фондах за межа-

---

[292]) Полымя, 1925 г., № 2, б. 208.
[293]) ІБК ПЗБАА, Рэзалюцыі, б. 5.

мі БССР», «Зьезд пастанавіў . . . аб звароце архіўных фондаў, што датычацца Беларусі, як, напрыклад — дакуманты і кнігі старых беларускіх архіваў, а ў тым ліку і адарваныя часткі Літоўскай Мэтрыкі, якія раскінуты і знаходзяцца цяпер у был. архіве Землеробства і землябудаўніцтва, у Ленінградзкай Публічнай бібліятэцы, у был. Археаграфічнай Камісіі, у был. архіве Галоўнага Вайсковага Штабу, у был. Архіве Міністэрства Замежных Спраў у Маскве і ў іншых архіўных установах РСФСР; а таксама і тыя архівы, якія былі эвакуяваны ў час апошняй вайны, як, напр. — архіў Віцебскі і Віленскі і іншыя архіўныя фонды». Апрача таго, «даведаўшыся, што ў архівах Польшчы знаходзіцца значны лік архіўных матар'ялаў XV—XVIII ст.ст., якія па сваім афіцыйным паходжаньні належаць да старых беларускіх архіваў . . . Зьезд лічыць неабходным прасіць Урад БССР аб пастанове пытаньня аб іх звароце».[294]) У рэзалюцыі № 6, «Аб звароце бібліятэк», «Зьезд пастанаўляе прасіць Інбелкульт зьвярнуцца да ўраду з посьбай аб звароце ў БССР бібліятэк, вывезеных з Беларусі ў розныя часы»[295])

Ці рабіў што ў гэтай справе тады або калі пазьней Урад БССР, публічна пра гэта нічога

---

[294]) Там-жа, бб. 5—6.
[295]) Там-жа, б. 7.

няведама;[296]) і ніводная старая беларуская бібліятэка, архіў ці якісь пазьнейшы зь іх збор у БССР дагэтуль ня вернутыя.

Ня чуваць і аб новых спробах звароту з боку АН БССР ці іншых навуковых установаў.[297]) Апошнія адно пачалі зьбіраць цяпер мікрафільмы й фатастаты.[298]) Як выключэньне,

---

[296]) Ведама адваротнае: пасьля 2-ой сусьветнай вайны прадстаўнікі БССР, паводля сьведчаньня был. дырэктара Беларускага музэю ймя Я. Луцкевіча ў Вільні, адмовіліся забраць із Вільні ў БССР гэты музэй; і шматлікія помнікі пісьменства зь яго перайшлі ў Цэнтральную бібліятэку АН Літоўскай ССР у Вільні — ЛІМ, № 57/2518, б. 13.

[297]) Часткава да гэтага магла спрычыніцца тая акалічнасьць, што папярэднія рупліўцы гэтых спробаў — дэлегаты зьезду 1926 г. былі рэпрэсаваныя. Старшыні зьезду праф. М. Доўнар-Запольскаму адразу-ж па зьезьдзе было дадзена да зразуменьня, каб ён сам неадкладна пакінуў БССР, што ён і зрабіў увосені таго-ж 1926 г.; а рэшта сяброў прэзыдыюму, рэфэрэнты й блізу ўсе дэлегаты гэтага першага й тымчасам адзінага ў БССР зьезду беларускіх археографаў у 1930-ых гг. былі арыштаваныя й высланыя.

[298]) Інстытутам мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР вядзецца «работа па адшукванню і падрыхтоўцы фотакопій і мікрафільмаў забытых і раней невядомых помнікаў старажытнай беларускай пісьменнасці: было выяўлена звыш ста старажытных твораў, якія да апошняга часу фактычна яшчэ ня былі ў навуковым ужытку» (А. Жураўскі. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, т. 1, Мінск,

нам ведамы толькі адзін выпадак: у 1965 г. Дзяржаўны гістарычны музэй БССР атрымаў ад жыхара г. Львова Т. Максіські 54 дакуманты XVI—XVII ст.ст. з гісторыі Слонімскага й Наваградзкага паветаў (арыгінальныя лісты й прывілеі в. кн. в. кн. Аляксандра, С. Баторага й Жыгімонта Вазы).[299])

## Дзе цяпер помнікі беларускага пісьменства X—XVIII ст.ст.

Працэс пошукаў і выяўленьня іх далёка не закончаны: беларускіх дасьледчыкаў тут чакае вялікая праца. Із таго-ж, што нам ведама дагэтуль, можна сьцьвердзіць, што пасьля стольκіх выпадкаў гібелі іх у пажарах і войнах, пасьля бясконцых вывазаў і нішчэньняў, у самой Беларусі іх засталося мала, у БССР — яшчэ меней.

**У Менску** яны захоўваюцца ў **Дзяр. бібліятэцы БССР, Фундамэнтальнай бібліятэцы АН**

---

1967 г., б. 7). Кандыдат гістарычных навук Інстытуту гісторыі АН БССР В. Мялешка ў архівах Варшавы, Кракава, Пазнані й Курніка знайшоў шмат дакумантаў XVI—XVIII ст.ст. з гісторыі Слуцка, Ваўкавыска, Нясьвіжу, Копысі, Магілёва, Стоўпцаў, Шклова, Валожына й інш. гарадоў і мястэчак Беларусі, дагэтуль невядомых гістарычнай навуцы. 25.000 балонак зь іх ён адабраў для мікрафільмаваньня (час. «Беларусь», Мінск, 1963 г., № 10, б. 25).

[299]) ЛІМ, № 66/2015 за 17. VIII. 1965 г.

**БССР, Дзяржаўным гістарычным музэі БССР і Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР.** Дзяржаўна бібліятэка із рукапісных кніг мае ўсяго зь дзясятак багаслужбовых і царкоўна-павучальных помнікаў перапішчыцтва XVI—XVII ст.ст.[300]) ды гэтулькі-ж старадрукаў XVI ст. з друкарняў Ф. Скарыны ў Празе, Р. Хадкевіча ў Заблудаве й братоў Мамонічаў у Вільні.[301]) Яшчэ меней іх у Фундамэнтальнай бібліятэцы АН.[302]) У дзяржаўным музэі ёсьць невялікая калекцыя дакумантаў XVI—XVIII ст.ст., колькі рукапісных кніг і паасобныя выданьні XVI—XVIII ст.ст. з друкарняў Заблудава, Вільні, Куцейны, Магілёва, Нясьвіжу, Горадні, Полацка, Супрасьля.[303]) Большы збор дакумантаў мае Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў БССР, створаны ў 1963 г. із фондаў был. Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіву БССР у Магілёве, старажытных актаў ягонага філіялу ў Горадні й Дзяржаўнага архіву Менскай вобласьці (тут і ф. 694 — был. Нясьвіскага архіву, вывезенага ў 1939 г.[304])

---

[300]) Працы Інстытуту мовазнаўства АН БССР, вып. 4, Мінск, 1957 г., бб. 70 і 79.

[301]) БелСЭ, т. 2, 1970 г., б. 326.

[302]) Там-жа, б. 328.

[303]) Там-жа, т. 4, бб. 228—229.

[304]) Невядома аднак, ці сюды перададзены ўвесь Нясьвіскі архіў. У савецкіх інфармацыях гэты фонд Радзівілаў, які «складае амаль чатыры вагоны да-

Калекцыю дакумантаў XVI—XVIII ст.ст. і старадрукі XVII—XVIII ст.ст. із Горадзенскіх друкарняў мае **Дзяржаўны гісторыка-архэалягічны музэй у Горадні.**[305])

Непараўнана болей помнікаў старога беларускага пісьменства ў Вільні. якая пасьля І-ай сусьветнай вайны была пад Польшчаю, а пасьля 2-ой — у межах Літоўскай ССР. Тут рукапісныя кнігі, дакуманты й старадрукі ў беларускай, царкоўнаславянскай, лацінскай і інш. мовах сабраныя ў **Цэнтральнай бібліятэцы АН Літоўскай ССР** і рукапісным аддзеле **Бібліятэкі Віленскага ўнівэрсытэту.**

Зборы акадэмічнай бібліятэкі — гэта былыя зборы Віленскай Публічнай бібліятэкі (вывезеныя ў 1915 г. у Расею й вернутыя ў 1945 г. назад), Беларускага музэю ймя Я. Луцкевіча ў Вільні (был. прыватнага збору беларускага архэоляга Я. Луцкевіча, ператворанага па ягонай сьмерці, у 1921 г., у грамадзкі музэй,[306]) падпарадкаваны ў 1940—41 гг. АН

---

кумантаў», мянуецца «фамільным» (час. «Беларусь», Мінск, 1955 г., № 9, б. 32), хоць у навуковай літаратуры за ўласна «фамільныя фонды» Нясьвіскага архіву ўважаецца толькі малая ягоная частка, куды, паводля Іконьнікава (т. 1, кнг. 2, бб. 1239—1241), із усіх 254,846 дакумантаў у 1867 г. належала 14.800.

[305]) БелСЭ, т. 4, б. 19.

[306]) У музэі былі калекцыі беларускіх старадрукаў XV—XVIII ст.ст. (Трыодзь каляровая Ш. Фэоля, выданьні Ф. Скарыны й беларускіх друкарняў у

Літоўскай ССР і зусім адаптаваны ёю ў 1946 г.) і некаторых іншых невялікіх калекцыяў. Найбольш коштоўныя помнікі беларускага пісьменства гэтага кнігазбору ў наступных фондах: у першых шасьці спэцыяльна пэргамінных фондах, якія агулам маюць 1395 дакумантаў (лістоў, наданьняў і прывілеяў в. кн. в. кн. Вітаўта, Аляксандра, Жыгімонта Старога, Жыгімонта Аўгуста, С. Баторага й інш.) — ф. 1 (B-1, был. Віленскай Публічнай бібліятэкі, пач. ад 1187 г.), ф. 2 (PRK, ад 1503 г.), фф. 3 і 6 (B—55 і VK, был. Віленскай капітулы, ад 1414 і 1387 гг.) і фф. 4 і 5 (PK і PK—2, г. зв. 1-ай і 2-ой калекцыі пэргамінных дакумантаў, ад XIV і XVI ст.ст.); ф. 19 (RKF), які мае 329 рукапісных кніг XI—XVIII ст.ст. был. Віленскай Публічнай бібліятэкі (багаслужбовых — Тураўскае эвангельле XI ст., Менскае эвангельле XIV ст. і інш.; кніг

---

Вільні, Нясьвіжы, Заблудаве, Еўі, Магілёве, Куцейне, Горадні, Полацку, Слуцку), рукапісных кніг XII—XVIII ст.ст. (Словы Хведара Студзіта з 1176 г., ілюстраванае эвангельле Жухавіцкай царквы к. Міра з XIV ст., Жыровіцкі трэбнік 1545 г., беларускія пераклады «Александрыі» й «Аповесьці пра Баву» XVIII ст. і г. д.), юрыдычных актаў (пач. ад 1507 г.), сфрагістычных і эпіграфічных помнікаў (пячаткі Полацкіх князёў Усяслава Чарадзея з XI ст. і сына ягонага Барыса з 1-ае траціны XII ст., Дарагічынскія сьвінцовыя пломбы з XII—XIII ст.ст. і інш.) і г. д. — В. Глазырын. Беларускі музэй у Вільнюсе (ЛІМ, 1941 г., № 7); БелСЭ, т. 2, б. 242.

Сьвятога Пісьма — пяцікніжжа Майсея, кнігі прарокаў, апосталы, апакаліпсы й інш.; твораў айцоў царквы — Яна Залатавуснага, Рыгора Багаслова, Ахрэма Сірына, Рыгора Дваяслова, Дарафея авы й інш.; зборнікаў мастацкай і навуковай літаратуры — чэцьці, а ў тым і Супрасьльская кан. X-пач. XI ст., пацярыкі, пралогі, палеі, хранографы й г. д.); ф. 22 (ВХ) — таксама рукапісныя кнігі был. Віленскай Публічнай бібліятэкі (Летапіс Абрамкі, ізмарагды, мінеі, трэбнікі й г. д.); ф. 21 (VB) — зборы Беларускага музэю імя Я. Луцкевіча ў Вільні, пасьля абрабаваньня якога ў 1944 г.[307]) у ім засталося яшчэ 2.306 рукапісных адзінак перахаваньня — кніг, а найболей дакумантаў із былых прыватных архіваў графаў Цішкевічаў (XVI—XIX ст.ст.), Касьцюшкаў (1530—1906 гг.), Сапегаў (1571—1728 гг.), друкароў Мамонічаў (XVI—XVII ст. ст.), Кастравіцкіх (1600—1837 гг.), князеў Радзівілаў (XVII—XVIII ст.ст.), актаў беларускіх манастыроў і цэркваў (1507—1854 гг.) і інш.; а таксма помнікі юрыдычнага пісьменства ў фф. 9 (BF, ад XVI ст.), 18 (В—4, был. Віленскай Публічнай бібліятэкі, ад XVI ст.), 25 (ADK, ад 1496 г.), 122 (BMK, ад 1490 г.) і інш.

У бібліятэцы ўнівэрсытэту ёсьць к. 50 рукапісных трактатаў беларускіх філёзафаў

---

307) ЛІМ, № 57/2518, б. 13.

XVII—XVIII ст.ст. у лацінскай мове,[308]) колькі старадрукаў, пасобныя актавыя кнігі XVI—XVII ст.ст.[309])

Але галоўныя зборы помнікаў старога беларускага пісьменства, як гэта мы ўжо часткава паказлі, знаходзяцца паза Беларусьсю[310]) — на Украіне, у Польшчы, а пераважна

---

[308]) БелСЭ, т. 4, б. 26.

[309]) 450 год беларускага кнігадрукаваньня, АН БССР, Мінск, 1968 г., бб. 139 і 150.

[310]) Тут трэба дадаць, што ў **был. Рыскім гарадзкім архіве**, ф. 2 (цяпер — Вонкавы архіў Рыскага магістрату, ф. 2, у **Цэнтральным дзяржаўным архіве Латвійскай ССР)** захаваліся ў беларускай мове арыгіналы гандлёвых умоў і дыпляматычных лістоў XIII—XVI ст.ст. паміж Полацкам (у некалькіх — Віцебскам і Смаленскам) і немцамі Рыгі й ганзейскіх гарадоў. Паводля аднаго із публікатараў іх, А. Харашкевіч, толькі за апошнюю трацьну XV ст. у архіве іх болей за 70 (Археографический ежегодник за 1965 г., Москва, 1966 г. б. 328). Невялікія калекцыі беларускіх старадрукаў ці паасобных рукапісаў, часта арыгінальных, унікальных ці рэдкіх, выяўленыя ў бібліятэках заходняе й паўдзённае Эўропы, куды яны ў свой час трапілі рознымі дарогамі. Назавем тут бібліятэкі **Брытанскага музэю ў Лёндане** (British Museum), дзе ёсьць некаторыя выданьні Ф. Скарыны й беларускіх друкарняў кан. XVI—XVII ст.ст. (а ў тым і Слуцкай друкарні Радзівілаў), із унікальных кніг — беларускі буквар выданьня Віленскага праваслаўнага брацтва ў 1640 г.; **Упсальскага каралеўскага ўнівэрсытэту ў Швэцыі** (Kungl. Universitets Bibliot.), якая мае экзэмпляр

ў Расеі. Да ўжо сказанага пра гэта застаецца дадаць, што пасьля розных (дасюлешніх) рэарганізацыяў бібліятэк, архіваў і музэяў яны сабраныя ў наступных важнейшых украінскіх, польскіх і расейскіх сховішчах.

**На Украіне: у Кіеве — у Дзяржаўнай Публічнай бібліятэцы УССР (был.** Усенароднай бібліятэцы Украіны), куды ў 1924—25 гг. із Кіеўскага ўнівэрсытэту былі перададзеныя (мы ня ведаем, ці поўнасьцю) Шчорсаўскія бібліятэка й архіў графаў Храбтовічаў, а ў 1927 г. — зборы Кіеўскіх духоўнай акадэміі й манастыроў;[311]) у **Львове — у Дзяржаўным**

---

Статуту Вялікага княства Літоўскага рэдакцыі 1588 г., «Лексиконъ» П. Бярынды, 1653 г., Куцейна, і інш. і 5 выданьняў невядомых да 1951 г. бібліяграфіі; **Аксфордзкага ўнівэрсытэту ў Ангельшчыне** (Bodleian Library), дзе, спаміж іншых, ёсьць 9 невядомых да 1951 г. беларускіх старадрукаў 1574—1644 гг. ды колькі помнікаў XVI—XVII ст.ст. рукапісных (арыгінал ліста С. Буднага да ангельскага рэфармацыйнага дзеяча Джана Фокса з 1574 г., слоўнік XVII ст.); а таксама й бібліятэкі **Ватыкану, был. Каралеўскую ў Бэрліне, Кэмбрыджскага ўнівэрсытэту ў Ангельшчыне, архібіскупа Марша ў Дубліне, Нацыянальную ў Парыжы, Каралеўскую ў Капэнгагэне, Middle Temple у Лёндане, Landesbibliothek у Гоце** (Gotha, Нямеччына), **народныя ў Белградзе й Сафіі й беларускую імя Ф. Скарыны ў Лёндане.**

311) Известия Академии Наук БССР, Минск, 1955 г., № 5, б. 66; Проф. д-р Н. Полонська-Василенко. Українська Академія Наук (Нарис історії), ч. 1 (1918—1930), Мюнхен, 1955, бб 91—92.

**музэі ўкраінскага мастацтва** (дзе ёсьць беларускія рукапісы й к. 100 стараднукаў із 20 беларускіх друкарняў, сабраных у 1905—08 гг. у Беларусі дырэктарам музэю І Сьвяціцкім),[312] **Бібліятэцы АН УССР** (дзе частка былых збораў бібліятэкі Асалінскіх) і **філіяле Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіву УССР** (ф. 201 і інш.).

**У Польшчы:** у **Варшаве** — у **Нацыянальнай бібліятэцы** (Biblioteka Narodowa, был. Варшаўская Публічная бібліятэка), дзе ў часе 2-ой сусьветнай вайны згарэла бальшыня ранейшых збораў рукапісаў і стараднукаў, але куды перайшлі зборы графаў Красінскіх, графаў Замойскіх, зьліквідаванай бібліятэкі Пярэмыскай вуніяцкай капітулы й інш.; **Галоўным архіве старажытных актаў** (Archiwum Główne Akt Dawnych, был. Каронны); у **Кракаве** — у **бібліятэцы Нацыянальнага музэю** (Museum Narodowy, у былых зборах князёў Чартарыйскіх); у **Курніку** к. Пазнані — у **Бібліятэцы Польскай АН** (был. графаў Дзялынскіх[313]) і ў **Пазнані** — у **Бібліятэцы Рачынскіх**, таксама моцна ўцярпелай у часе **2-ой сусьветнай вайны.**

Беларускія старадрукі XVI—XVIII ст.ст. ёсьць і ў **Ягайлаўскай бібліятэцы ў Кракаве**

---

312) Полымя, 1968 г., № 3, б. 250.

313) АП, § 255; А. Мальдзіс. Тры месяцы..., б. 236.

й бібліятэках **Нацыянальнага інстытуту імя Асалінскіх Польскай АН і ўнівэрсытэту ўва Уроцлаве,**[314] а рукапісы — у **бібліятэцы Варшаўскага ўнівэрсытэту.**[315]

**У Расеі: у Маскве — у Дзяржаўнай бібліятэцы СССР,** у зборах был. Маскоўскай Публічнай бібліятэцы пры Румянцаўскім музэі (фф. 256 і 132) і зборах Нікіфаравых (ф. 199), І. Ціханравава (ф. 299), В. Ундольскага (ф. 310), Т. Бальшакова (ф. 37) і г. д.; **бібліятэцы Дзяржаўнага гістарычнага музэю СССР,** у зборах был. Сынадальнай (Патрыяршай) бібліятэкі (ф. 80370) і зборах графа А. Уварава, І. Царскага, Е. Барсава, А. Хлудава, А. Чарткова, П. Шчапава й г. д.; **Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў,** у зборах кніг Літоўскай Мэтрыкі (ф. 389), был. Бібліятэкі Маскоўскай Сынадальнай друкарні (ф. 381), был. Маскоўскага Галоўнага архіву міністэрства замежных спраў (ф. 181), у ф. 1250 і інш.; у **Ленінградзе — у Дзяржаўнай Публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына** (был. Пецярбурскай Публічнай бібліятэцы), дзе цяпер і былыя зборы із помнікамі беларускага пісьменства Пецярбурскай духоўнай акадэміі (ф. 573), Расейскага Архэалягічнага таварыства (ф. 659), Бычковых (ф. 120), М. Пагодзіна (ф. 588), Ф. Талстога й г. д.; **Бібліятэцы АН СССР** (і як асобнай

---

314) Книга, сб. 8, 1963 г., бб. 293—295.

315) Мальдзіс, там-жа, бб. 204—206.

частцы яе — **Архіве Ленінградзкага аддзелу Інстытуту гісторыі АН СССР),** куды да ранейшых збораў был. Бібліятэкі Пецярбурскай АН далучаныя зборы был. Пецярбурскай Архэаграфічнай камісіі (ф. 2) і інш.; **Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве** (ф. 834 — был. Пецярбурскага Сыноду, і інш.) і ў **Новасібірску — у Дзяржаўнай Публічнай Навуковай бібліятэцы Сібірскага аддзелу АН СССР** (у вабодвых зборах М. Ціхамірава).

Найбольшыя зборы беларускіх старадрукаў сабраныя ў ваддзелах рэдкай кнігі Дзяржаўнай бібліятэкі СССР і Дзяржаўнага гістарычнага музэю СССР у Маскве, Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі ймя Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе; меншыя — у Бібліятэцы АН СССР у Ленінградзе й Цэнтральным дзяражаўным архіве старажытных актаў у Маскве.

Помнікі старога беларускага пісьменства ёсьць і ў іншых сховішчах СССР — у **бібліятэках Ленінградзкага**[316] **й Саратаўскага**[317] **ўні-**

---

[316]) Да папярэдніх інфармацыяў дадамо: В. Н. Перетц. Українськи та білоруськи стародруки в бібліотеці Ленінградського університету — Бібліологичні вісти, Київ, 1924 р., чч. 1—3, бб. 168—178. У 1963—69 гг. сюды із савецкай поўначы дадаткова прывезена 15 кніг XVI—XVII ст.ст., выдадзеных у друкарнях Вільні, Магілёва, Куцейны й Заблудава (А. Х. Горфункель. Каталог книг кирилловской пе-

**вэрсытэтаў, у Дзяржаўным архіве Калінінскай вобласьці**[318] і г. д. Іх знаходзяць яшчэ цяпер так далёка ад Беларусі, як на самай поўначы Архангельскай вобласьці й Комі АССР,[319] к. воз. Байкал у Бурацкай АССР[320] і іншых месцах.

---

чати 16—17 веков, Ленинград, 1970 г., №№ 5, 16, 18, 21, 23—25, 34, 37, 126, 136, 242, 243, 249 і 192).

317) Ю. Кузнецова. Українськи та білоруськи видання XVI—XVII ст.ст. у бібліотеці Саратовського університету — Бібліологічні вісти, 1928 р., № 1, бб. 33—38.

318) Археографический ежегодник за 1960 год, 1962 г., б. 215.

319) Труды Отдела древнерусской литературы Института русской литературы АН СССР, т. 15, 1958 г., б. 408.

320) Археографический ежегодник за 1960 год, бб. 218 і 369.

*Некаторыя скарачэньні*

АВАК — Акты, издаваемыя Виленскою комиссіею для разбора древнихъ актовъ, Вильна

АЗР — Акты, относящіеся къ исторіи Западной Россіи, собранныя и изданныя Археографическою комиссіею, СПБ

АСД — Археографическій сборникъ документовъ, относящихся къ исторіи Сѣверо-Западной Руси, издаваемый при Управленіи Виленскаго учебнаго округа, Вильна

АШ — Альгэрд Шлюбскі. Доля кнігасховаў і архіваў зямель крыўскіх і был. Вялікага княства Літоўскага, Коўна, 1925 г. (адбітка із час. «Крывіч», 1925 г., № 9/1, бб. 19-68).

БелСЭ — Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, АН БССР, Мінск

Добрянскій — Ф. Н. Добрянскій. Описаніе рукописей Виленской Публичной библіотеки, Вильна, 1882 г.

ІВК ПЗВАА — Інстытут Беларускае Культуры. Працы Першага Зьезду Дасьледчыкаў Беларускае Архэолёгіі і Архэографіі 17-18 студзеня 1926 году. У Менску — 1926.

Иконниковъ — Опытъ русской исторіографіи В. С. Иконникова, т. 1, книга 1 и 2, Кіевъ, 1891—1892 г.

ИЮМ — Историко-юридическія матеріалы, извлеченныя изъ актовыхъ книгъ губерній Витебской и Могилевской, хранящіеся въ Центральномъ архивѣ въ Витебскѣ, Витебскъ

Книга — Книга. Исследования и материалы, Москва

ЛІМ — газ. «Літаратура і Мастацтва», Мінск

Полымя — час. «Полымя», Мінск

РИБ — Русская Историческая Библіотека

ЭС — Энциклопедическій словарь... издатели: Ф. А. Брокгаузъ, И. А. Ефронъ, СПБ

LE — Lietuvių Enciklopedija, New York

## ЗЬМЕСТ

## ВЫБРАНЫЯ КНІГІ І АРТЫКУЛЫ АЎГЕНА КАЛУБОВІЧА:

1. Мова ў гісторыі беларускага пісьменства. Ч. 1. Мюнхэн — Лёндан, 1974—1975. — 84 с.
2. Мова ў гісторыі беларускага пісьменства. Ч. 2. Кліўленд: Друкаваў Мікола Прускі, 1978. — 238 с.
3. «Айцы» БССР і іх лёс = «Fathers» of the B.S.S.R. and their fate / Аўген Калубовіч. — Клыўленд, 1985. — 72 с.
4. Акт 25 сакавіка і адраджэнне Нацыянальнай Беларускай Культуры. — Беласток: Выдавецтва імя У. Ігнатоўскага, 1988. — 16 с.
5. Беларуская Народная Рэспубліка. Сучасныя праблемы беларускае вонкавае палітыкі. — [Нью Ёрк], 1952. — 17 с.
6. Выпіскі з крывіцкае літаратуры. Падручнік для сярэдніх школаў. Сшыток 1: Вусная народная творчасьць / Укл. А. Калубовіч. — Рэгенсбург, 1946. — 42 с.
7. Крокі гісторыі: Даследаванні, артыкулы, успаміны / Біягр. нарыс і спіс публ. І. Каханоўскай. — Беласток — Мн. — Вільня: ГаМакс, 1993. — 285 с. — ISBN 5-340-01437-1
8. На крыжовай дарозе = On the Way of the Cross: успаміны / Аўген Калубовіч; Уступ Dr. Roger Horoshko. — Клыўленд: выдадзена коштам аўтара, 1986. — 252 с.
7. На крыжовай дарозе: Творы з эміграцыі / Аўген Калубовіч; Уклад. і прадм. Я. Лецкі. — Мн.: ВЦ «Бацькаўшчына», 1994. — 318 с.

8. Паэтычная стылістыка: Падручнік для сярэдніх школаў / А. Верасень. — [Міхельсдорф]: «Крыніца», 1947. — 4 сшыткі
9. Пясьняр свабоды й красы: (У 30-я ўгодкі сьмерці Максіма Багдановіча) / А. Верасень; Выданьне Беларускае гімназіі. — Баварыя: выдавецтва «Крыніца», 1947. — 35 с.
10. Пясьняр свабоды й красы: (У 30-я ўгодкі сьмерці Максіма Багдановіча). Беларускі сьвет, НЁ – 1979, № 6(75)
11. Янка Купала і Якуб Колас. 1882—1982: Вянок успамінаў пра іх / Укл. і рэд. А. Калубовіч. — ЗША, 1982. — 81 с.
12. «Айцы БССР» і іхны лёс. — Кліўленд, 1982. 2-е выд.: Кліўленд, 1985.
13. Мікола Шчаглоў (Куліковіч). Беларускі сьвет, НЁ – 1984, № 15 (44).

## КНІГІ, ЯКІЯ ВЫШЛІ Ў ВЫДАНЬНІ «БЕЛАРУСКІЯ ВЕДАМАСЬЦІ» І БВТА

1. Зянон Пазьняк. Камунізм як форма рускага імпэрыялізму. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы», 2000 г.
2. Зянон Пазьняк. Новае стагоддзе. – Варшава, 2002 г.
3. Зянон Пазьняк. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. – Варшава, 2003 г.
4. Зянон Пазьняк. Вялікае Княства. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы», 2005 г.
5. Зянон Пазьняк. Вялікае Княства (2-е выданьне). – Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
6. Зянон Пазьняк. Беларуска-Расейская вайна. Belarus is easten outpost. – Варшава, 2005 г.
7. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі. – Нью – Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы», 2005 г.
8. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі (2-е выданьне). – Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
9. Сяргей Навумчык. Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988 – 1995). – Варшава, 2006 г.
10. Галіна Пазьняк. Беларусь у сэрцы. – Варшава, 2007 г.
11. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. – Варшава, 2007 г. (Містыфікацыя. Выдадзена ў Беларусі, 1/16 д.а., 60 с.).
12. Зянон Пазьняк. Дарога. – Варшава, 2007 г.

12. Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 1, артыкулы і матэр'ялы (1990—III.1996). – Варшава, 2007 г.
14. Парсіваль (2-е выданьне). – Варшава, 2009 г.
15. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. – Варшава, 2009 г. (1/32 д.а., 192 с.)
16. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 2, артыкулы і матэр'ялы (IV.1996—2002). – Варшава, 2010 г.
17. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Працяг. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 3, артыкулы і матэр'ялы (2003–2010). – Варшава, 2010 г.
18. Сяргей Навумчык – Зянон Пазьняк. Дэпутаты Незалежнасьці. – Варшава, 2010 г.
19. Зянон Пазьняк. Дэкларацыя – першы крок да Незалежнасьці. – Варшава, 2010 г.
20. Зянон Пазьняк. Сэсія Незалежнасьці. – Варшава, 2011 г.
21. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў. – Варшава, 2011 г.
22. Зянон Пазьняк, Валеры Буйвал. Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял. – Варшава, 2012 г.
23. Зянон Пазьняк. Добрая фатаграфія. – Варшава, 2012 г.
24. Галіна Пазьняк. Менскі гарсавет у пэрыяд нацыянальнай рэвалюцыі (1990-1991). – Варшава, 2012 г.
25. Зянон Пазьняк. Тэрра Дэй. – Варшава, 2014 г.
26. Zenon. OJCZYZNA WIECZNA. – Warszawa, 2014
27. Аўген Калубовіч. МОВА Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА. (Прадмова да факсіміле – Зянон Пазьняк). Варшава «Беларускія Ведамасьці», 2015 г.,

ISBN 978-83-935476-2-3



2. Кніга, якая гарэла ў вагні. *(Фота З. Пазьняка)*

АЎГЕН КАЛУБОВІЧ.
МОВА Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА.

*ФАКСІМІЛЬНАЕ*
*НАВУКОВА-АСЬВЕТНІЦКАЕ*
*ВЫДАНЬНЕ*

**Аўген Калубовіч. МОВА Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА.**
**Частка І.** Факсімільны друк з выданьня: Мюнхэн–1974-1975–Лёндан.
Прадмова да факсіміле і выдавец: – Зянон Пазьняк. Выданьне:
Варшава „Беларускія Ведамасьці", 2015 г., 96 с. 1/64 д.а.,
наклад 500 ас.
ISBN 978-83-935476-2-3

Сканаваньне, прадмова, схема макету, укладаньне – *Зянон Пазьняк*
Кампутарны склад па макету – *Робэрт Стаховіч*
Друк – QLCO
Наклад – 500 ас.
Аддрукавана ў лістападзе 2015 г. у Варшаве.
Папера афсэтная фармат 105х148, 1/64 д.а.
Ул. друк. арк. 1,5

„Беларускія Ведамасьці", Варшава 02-017,
вул. Ерузалімскія алеі, 125/127